# Следам
## Адама Сталоны-Дабжанскага

Майстар пэндзля **Адам Сталоны-Дабжанскі** — пустэльнік, паклоннік народнай традыцыі, сын Усходу і Захаду. Нарадзіўся ў 1904 годзе на Чарнігаўшчыне, што на ўсход ад Кіева. Першыя цудоўныя гады жыцця правёў пад крыламі клапатлівых бацькоў. Бацька мастака — нашчадак польскага рыцарскага роду, працаваў суддзём. Маці сцерагла сямейны ачаг паводле старавераўскай, старарускай традыцыі. Будучы дзевятнаццацігадовым хлопцам, разам з сям'ёю перасяліўся ў Польшчу. Год пазней намаляваў цыкл знакамітых партрэтаў, якімі прадказаў нараджэнне вялікага, мастацкага таленту. Далей пайшлі вучоба і праца ў Кракаўскай акадэміі мастацтваў ды прыгода з містыкай і сакральным мастацтвам на ўсё жыццё. У гэтай прыгодзе падтрымлівалі яго мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій ды папа Ян Павел II. Спадчына вялікага мастака зберагаецца, між іншым, на Падляшшы. У царкве св. Мікалая ў Міхалове знаходзіцца адмысловая паліхромія, створаная мастаком у 1954-1955 гадах.




Тамаш Вісьнеўскі і Іаанна Тамальская

Менавіта міхалоўскай паліхроміі прысвечана была адна з сустрэч у тамтэйшай Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі (МФГіФ), якой кіруе Тамаш Вісьнеўскі. У поўнай зале ў ліку зацікаўленых тэмай апынуліся, між іншым, прадстаўнікі мясцовых улад і праваслаўнае святарства. Прыбыў таксама кансерватар помнікаў даўніны Антоні Аляксіцкі.

Гаспадар майстэрні Тамаш Вісьнеўскі распачаў сустрэчу словамі «Чужое хваліце, свайго не ведаеце». Дзесяцігоддзі цэнзуры, рэпрэсій, спробы вымазання імя вялікага мастака — настаўніка Ежы Навасельскага — з карт польскай культуры зрабілі сваё. Міхалоўская паліхромія амаль невядомая жыхарам Падляшша ці Польшчы. Тамаш Вісьнеўскі намагаецца праабражаць невядомае ў вядомае. Тут і знайшоў ён для сябе новае, важнае заданне. У прысутнасці ўсіх, якія падхапілі яго тэму, выказаў спадзяванне далейшага прапаведніцтва добрай навіны пра вялікае мастацтва еўрапейскага маштабу ў Міхалове.

Удзел у сустрэчы прыняла таксама гісторык мастацтва Іаанна Тамальская, якая з захапленнем гаварыла пра творчасць прафесара Сталоны-Дабжанскага. Прыехала яна з мультымедыйнай прэзентацыяй пра раннехрысціянскія крыніцы міхалоўскай паліхроміі. У сваім дакладзе Іаанна Тамальская звярнула ўвагу на надта чыстыя і зразумелыя колеры міхалоўскіх фрэсак. Чырвань любові, ахвяры і зелень жыцця неразрыўна звязаны з народным ткацтвам ці вышыўкай. Важную ролю прыпісала яна арнаментыцы жыўцом узятай з мясцовага народнага мастацтва. На яе думку, міхалоўская паліхромія гэта надта ўдалае спалучэнне раннехрысціянскіх традыцый з праяўленнямі, характэрнымі простым людзям, жывучым тут спакон вякоў. Яна ствярае аднародны інтэр'ер з аднаго боку нязведанага, вышэйшага свету, а з другога — нашага, штодзённага.



Сведкі паўставання паліхроміі

Спадарыня Іаанна з сумам заўважыла, што ананімнасць прац вялікага мастака звязана перш за ўсё з другарадным месцам культуры ў нашай прасторы. «Здаецца, што заўсёды будзе час заняцца культурай, таму шмат чаго прападае беспаваротна, — сцвярджае яна. — Страцілі мы царкву на Грабарцы, многа вясковых цэркваў згарэла на Падляшшы ў васьмідзесятых гадах. Фактычна ніколі не даведаемся як яны выглядалі. Усе людзі, звязаныя з культурай, павінны выпаўняць гэтую пустую прастору, быць прапагандыстамі нашай спадчыны. Яна сапраўды гэтага вартая», — гучаў заклік Іаанны Тамальскай.

Прафесар Сталоны-Дабжанскі, як кожны адораны мастак, меў дар прадказвання будучыні. Вачамі душы бачыў часы, у якіх мастацтва з'яўляецца прадвеснікам смерці, пякельнай брамай у свет, пазбаўлены традыцый, надзеі і веры.

Надзея і вера жыве яшчэ ў сэрцы настаяцеля Міхалоўскага прыхода айца Яна Ярашука. Як мала хто дбае ён пра захаванне аўтэнтызму сваёй царквы. Намаганнямі бацюшкі ў 2008 годзе паліхромія занесена ў рээстр помнікаў даўніны. Ёсць планы правядзення сур'ёзных кансерватарскіх прац. Бацюшка падаў ужо адпаведны праект у Маршалкоўскую ўправу, але патрэбных сродкаў пакуль не атрымаў. Усё-такі ён верыць, што добрыя намеры раней ці пазней здзейсняцца.

Яшчэ адной вялікай атракцыяй міхалоўскай вечарыны стаў альбом «Адам Сталоны-Дабжанскі. Паліхромія ў царкве св. Мікалая ў Міхалове». Багата ілюстраванае выданне з тэкстамі Іаанны Тамальскай і Яна Сталоны-Дабжанскага з'явілася па ініцыятыве міхалоўскай МФГіФ у апрацоўцы працаўніка майстэрні Марціна Тура. Спадарыня Іаанна пераканана, што кніжка спрычыніцца да папулярызацыі нашага мінулага.

У дыскусію на тэму зберагання мясцовай царкоўнай спадчыны і праблем з прызнаннем мастацтва Сталоны-Дабжанскага і яго вучня Ежы Навасельскага ўключыліся і астатнія ўдзельнікі сустрэчы.

Навочныя сведкі паўставання паліхроміі ўзгадвалі эпізоды, звязаныя з гэтай падзеяй. Праўдападобна жыве яшчэ ў Беластоку Ірына Анна Казлоўская, дачка лесніка, якая памагала размалёўваць міхалоўскую паліхромію. На жаль, паводле слоў настаяцеля прыхода, у парафіяльнай хроніцы не захаваліся ніякія здымкі з гэтага перыяду.

Айцец Ян Ярашук завяршыў сустрэчу падзячнымі словамі ў адрас Тамаша Вісьнеўскага і яго сяброў з міхалоўскай МФГіФ за зацікаўленне і згоднае супрацоўніцтва ў зберагання мясцовай культурнай спадчыны.

Пасля дыскусіі гасцей чакалі салодкі пачастунак, выстаўка здымкаў міхалоўскай паліхроміі і бясплатныя экземпляры згаданага альбома.

Тэкст і фота
Іаанны ЧАБАН

## Новыя трасы для веласіпедыстаў

5 сакавіка гэтага года ў Беластоку распачалі пабудову новай веласіпеднай дарожкі ўздоўж доўгай вуліцы Кавалерыйскай (ад Вясновай да Пуласкага), а таксама ўздоўж вуліцы Міцкевіча (ад Звежынецкай да Цыялкоўскага). Будуць яны здадзены ў карыстанне да канца красавіка гэтага года.

— Гэта не канец веласіпедных інвестыцый у Беластоку. Сёлетняй вясною распачнецца пабудова веласіпеднай дарожкі ўздоўж алеі Пілсудскага на беразе рачулкі Белай пад двума мастамі, — інфармуе Януш Астроўскі, дырэктар Праўлення дарог і гарадскіх інвестыцый. — Чарговую веласіпедную інвестыцыю мы запланавалі на вуліцы Герояў гета на адрэзку ад алеі Пілсудскага да вуліцы Жабінай. Гэта сёлетнія нашыя прыярытэты. Магістрат на веласіпедныя дарожкі мае ў сваім бюджэце два мільёны злотых.

У 2014 годзе ў Беластоку мае быць 100 кіламетраў трас для веласіпедыстаў. Цяпер яны маюць ужо даўжыню ў 90 кіламетраў. Адна з прыгажэйшых і доўгіх дарожак з'явілася нядаўна побач вуліцы 42 Пяхотнага палка (раней 27 Ліпеня). Яна ноччу асветленая. Канчаецца на мяжы горада. Далей лес. Ён ужо на тэрыторыі Супрасльскай гміны. На некаторых артэрыях дарожкі бягуць нават паабапал вуліц, між іншым, на вуліцы ген. Мачка і ген. Клеберга.

Пры ўсім гэтым важна для веласіпедыстаў, каб сцежкі часцей спалучаліся. Іх ужо не задавальняюць невялікія кавалкі дарожак. Вядома, было б вельмі добра, каб па іх можна было спакойна даехаць з далёкай перыферыі ў цэнтр горада. Язда на веласіпедзе гэта ашчаднасць і рух вельмі важны для здароўя.

Варта дадаць, што веласіпедныя сцяжынкі вельмі часта будуюць на вуліцах, якія перабудоўваюць і пашыраюць. Цяпер такая перабудова ідзе на вуліцы Цыялкоўскага, а таксама Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. Працы закончаць восенню гэтага года. Будуць новыя трасы для веласіпедыстаў.

**(яц)**

## Мала, але цікава...

Паніжаецца прыбытак ад продажу папярос. За адзінаццаць месяцаў мінулага года ад продажу гэтага тавару паступіла ў дзяржаўную касу амаль 16,8 мільярда зл., хоць урад спадзяваўся на больш. Аналагічна да адпаведнага перыяду 2012 года, прыбытак ад продажу папярос панізіўся на 1,9% і склаў суму 327 млн. зл. Падае продаж папярос. У апошняй дэкадзе панізіўся з 75 млрд. штук на 55 млрд. Павышаецца спажыванне электронных цыгарэт. Гэтым відам цыгарэт карыстаецца кожны дзесяты курэц.

На думку кіраўніка Мытнай службы Яцка Капіцы, не прадугледжваецца павышэння прыбытку ад акцызу на тытунёвыя вырабы, паколькі Польшча рэалізавала мінімальны еўрапейскі акцызны падатак, які мела дасягнуць у 2018 годзе. Не зважаючы на гэты факт, акцызны падатак на тытунёвыя вырабы можа быць назначаны, беручы пад увагу інфляцыю. Такім падаткам не будуць абкладзены э-цыгарэты.

**(апр. ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Віктару Шведу — 89!

Калі ў нашу рэдакцыю прыязджаюць школьнікі, заўсёды ладзім ім конкурсы. Заўсёды паўтараецца адно пытанне: «Які паэт супрацоўнічае з „Зоркай”, больш за паўстагоддзя?»

Адказ тут просты, хоць сам па сабе неверагодна фантастычны:

— Гэта Віктар Швед!

Жыццё паэта звязанае з беластоцкай „чацвёркай”, туды хадзіла ягоная дачка Наталля, сёння інжынер-архітэктар. Гэтая акалічнасць паспрыяла прыгожаму сяброўству паэта і навучэнцаў беларускай мове. У школе ладзілі аўтарскія сустрэчы, ставілі спектаклі на словы паэта, запрашалі яго на ўсе беларускія святы, віншавалі з днём народзінаў.

Сёлета нагода для святкавання асаблівая — 23 сакавіка Віктару Шведу споўнілася 89 гадоў!

По ініцыятыве аб’яднання АБ-БА была наладжана адмысловая вечарына. У беластоцкі „Склеп з культурай” прыйшлі дзеці, бацькі, чытачы і сябры паэта. Сабраныя пагладзелі фільм Радаслава Дамброўскага, павіншавалі паэта ды праспявалі яму „Многае лета!”



Віктар Швед, падводзячы сваё доўгае і плённае жыццё, сказаў: «Я думаю, што мог зрабіць больш як зрабіў!» Такія словы здольны выказаць у свой адрас толькі чалавек спелы, споўнены. Паэт сам адзін напісаў больш вершаў як цэлае літаб’яднанне „Белавежа” — іх лік набліжаецца да трох тысяч вершаў. Яго ведаюць не толькі на Падляшшы, але і ў Беларусі. І самае галоўнае, ён далей піша!

ЗОРКА

Фота Ганны Кадрацюк

# Разбамбілі чэмпіянат!

Пасля VIII Ваяводскага шахматнага чэмпіянату для дзяцей да сямі гадоў у беларускім асяроддзі ўзніклі каларытныя легенды. Усё па прычыне дзяцей з беларускага садка.

На турнір, які праходзіў 23 сакавіка ў Гарнізонным клубе ў Беластоку, з’ехалася больш за сто пяцьдзесят юных шахматыстаў з усяго ваяводства. Таксама з беларускага садка прысутнічала прыстойная група: Ніка і Віктар Паўлоўскія, Алесь Здрайкоўскі, Каліса Пятроўская, Ясь Баравік, Міхась Мулярчык. Тайны гэтага каралеўскага спорту дзеці вывучаюць пад вокам спадарыні Улі Улецкай. Яны дабіліся поспехаў у чэмпіянаце шахматыстаў. Але не з-за гэтага ўзніклі легенды...

Паслухайце! У час падвядзення вынікаў арганізатары прапанавалі дзецям выступіць з нейкім вершыкам або песняй. Для сяброў з садка не трэба было паўтараць два разы. Спачатку на сцэну ўварваўся Алесь Здрайкоўскі і бадзёра праспяваў „Я вясну гукаю”. Публіка і арганізатары спачатку замерлі ад нечаканасці. Яны не ведалі ў чым справа:

— O, widzę, mamy małych poliglotów, — сказаў крыху разгублены суддзя чэмпіянату.

Тады кемлівы Алесь, разумеючы што няма поўнага зразумення, паясніў:

— To była piosenka w języku białoruskim!

Пасля яго выступлення суддзя зноў прапанаваў дзеткам:

— A może ktoś wierszyk powie?

На сцэну з’явілася Каліса Пятроўская і гучна прадэкламавала прыгожы вершык ... вядома, пабеларуску...

У прадчуванні, што дзеці з садка зд
амінуюць выступленні, суддзя ўсё не хаваючы здзіўлення, намаўляў іншых дзетак:

— A może ktoś z was jeszcze po polsku wierszyk powie!



Каліса Пятроўская



Алесь Здрайкоўскі

ЗОРКА

Фота Адам Паўлоўскі

# Вершы Віктара Шведа

## Можа была ты малпай?

Бабуля кажа ўнуку Колю:
— Калісьці я была ў прадшколлі,
Ды думаю, што было гэта
Як быццам на пачатку свету.

— Калі ты з даўнасці такое
Жыла бабуленька малою,
Можа, як чуем ад вучоных,
Была тады ты малпішонам?

## Адкуль малпе ведаць?

Настаўнік нечакана
На ўроку вучням кажа:
— Малпа праз тыдзень бананаў
З’ядае колькі сама важыць.

Было пытанне Альфрэда,
Мне гэта незразумела:
— Адкуль жа малпе ведаць,
Якая вага яе цела?

## Цяжарная бабуля

Маці з хаты выклікае
Сваю доню на хвіліну.
Там убачыла малая
Надта тоўстую жанчыну.

Адазвалася Ганулядзе
Надзвычай цікаўная:
— Мама, гэтая бабуля
Напэўна цяжарная.

## Не хапае цябе толькі

Унучка на парозе хаты
З бабуляй прывіталася:
— Усцешыўся надзвычай тата
Што ты да нас дабралася.

Перад хвілінаю ўсе чулі
Як сказаў татка ўпэўнена:
— Вось толькі яшчэ бабулі
Да шчасця не хапае нам.

# Калярова і па-беларуску

Фантастычныя рысункі Маргарыты Дмітрук можна было глядзець у Галерэі Крынкі на працягу двух месяцаў. Артыстка памалявала чорным маркерам сцены, падлогу, столь колішняй яўрэйскай мясной крамы, перайтвараючы яе ў цёплую, свойскую вясковую хату, тым не менш з выдатнай бібліятэкай. На вокнах, прама на шкле, зачароўвала карункавая сетка белых фіранак.

Выстава перад закрыццём набралася колераў. Дзякуючы дзецям з Пачатковай школы № 4 у Беластоку, якія прыехалі ў Крынкі разам з бацькамі ды настаўніцай Алінай Ваўранюк. На ўроках беларускай мовы старэйшыя знаёміліся з творчасцю Маргарыты Дмітрук, ведалі, на якую выставу едуць, але галоўная частка паездкі да самага канца заставалася таямніцай.

— Тое, што зможам маляваць па сценах так як пані Дмітрук, было для нас вялікай неспадзяванкай, — сказала Нюта Карнілюк у перапынку між трэцім і чацвёртым коцікам, якіх выводзіла ў кутку пакоя і на падаконніку. — Супер! Цудоўная неспадзяванка.

Кожны мог маляваць тое, што хацеў, без аніякай цэнзуры. На падлозе ўзніклі пярэстыя дываны ды каляровыя зубры — лагатыпы Падляшскага ваяводства, на сценах — казачныя аднарожцы і цалкам рэальныя камп'ютары ды сотавыя тэлефоны (падключаныя да разетак). А таксама амаль як жывыя павукі ды мухі.

— Гэта ж стары дом, а ў старым доме павінны быць і такія жыхары, — кажа іх аўтар Марцэлі Андрысэвіч.

— Ой, многа тут чаго можна памаляваць, — Зося Конюх ледзь сябе стрымлівала, тым больш, што за яе спіною да ўяўных полак з кніжкамі ўвесь час хтосьці падбягаў і пакідаў на іх свае знакі. — Мне вельмі падабаецца, што можам папаўняць гэтую бібліятэку сваімі „выданнямі". Ды наогул, цудоўна маляваць па сценах. Я гэтага ніколі раней не рабіла.

Калі хто з дарослых і меў спачатку нейкія сумненні наконт таго, ці гэта добра з пункту гледжання педагогікі, то хутка пераканаўся, што нельга забіваць у дзецях творчы імпэт, крэатыўнасць. Тым больш, што артыстычную актыўнасць дзяцей ухваліў прафесар Лявон Тарасэвіч, які быў куратарам выставы Маргарыты Дмітрук. А сама артыстка зусім не крыўдавала за эфектныя, хаця часам надта хаатычныя „папраўкі" ейных работ.

— Я цешуся, што дзеткам хацелася прыехаць у Крынкі і яшчэ столькі часу маляваць! Я сапраўды шчаслівая.

* * *

Паездка стала вынікам супрацоўніцтва Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА з Беластока і Фонду Віла Сакратас з Крынак.

(ак)















Фота Аліны ВАЎРАНЮК

# Увага, конкурс!!! (№ 13-14)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 6 красавіка, найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**

Вось дык хлопцы-малайцы!
На дзівосы здатны —
Без сякеры і пілы
Слаўна ўзводзяць хаты.
(М......)

**2.**

З-пад снегу выйшла.
Расцвіла і так засінела,
Што аж зіма ўцякла.
(П.......)

**3.**

На сцяблінцы на калматай
шэсць пялёсткаў ліламатых.
Кветка гэтая ў сне
ўсміхаецца вясне
(С.. т....)

Адказ, на загадкі № 10-14:
цацярук, яшчарка.
Узнагароду, каляровы аловак, выйграла **Альжбета Харкевіч** з Нараўкі. Віншуем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 13

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 9:

Ява, хмарка, хрэн, урад, рот, рыса, гуманіст, ода, траса. Ядро, го, хруст, мэта, фан, нос, курс, барытон, Ас, падарак.

Узнагароды, **запісныя кіжкі,** выйгралі **Патрыцыя Сакалоўская, Малгажата Бучак** з Міхалова, **Міхал Паніквіцкі, Караліна Шчасновіч** з Бабік, **Аня Бяляўская, Наталля Марчук** з Нараўкі, **Матвей Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Моніка Зырчук-Жар ды Мартына Леанюк** з Орлі. Віншуем!



Тутэйшыя ў Еўропе

# Едзем са смакам

Едзем у Брусель, сталіцу Еўропы. Не хутка — на самалёце, з Варшавы (дзве гадзіны палёту), а амаль суткі дабіраемся на бусіку. «Усё Падляшша сядзіць у Брусэлі!» — мяркую, марудна аглядаючы рэкламы транспартных фірм, што вязуць на Захад пасажыраў, тавары і перадачы-пакункі, пад дакладны адрас. Марудна, бо ўжо Лідка Маліноўская даўно перагледзела ўсе фірмы і выбрала адну, што зранку ў чацвер забярэ мяне спачатку ў Беластоку, з-пад блёка па вуліцы Вясёлай, а пасля яе — з Бельска, з-пад дома па вуліцы Уладзіслава Гамулкі, таварыша Веслава (старажытны Бельск-Падляшскі ў Еўропу ідзе па-свойму і ўшаноўвае каго хоча, незалежна ад афарбоўкі). А выбраць можна перавозчыкаў якіх хочаш — і з Браньска, і са Страблі... Забраўшы мяне ў салон з выгоднымі крэсламі, а мой рукзак укінуўшы паміж вялікія кардонкі і мяхі, бусік заязджае яшчэ па пачкі-перадачы і на мясны завод, адкуль бярэ ў Брусель у польскую краму мясныя вырабы. Шафёр прытым бесперапынна звоніць да калег-падрадчыкаў, якія не былі ў парадку з дачапным эвакуатарам (лявэтай) для машыны, які вярнуўся з замежжа вельмі брудны і з парванай гумай на парозе. Сам бусік — мала большы за той эвакуатар, які вязе на сабе машыну, што мяне вельмі здзівіла пры вяртанні праз пару дзён, калі іншыя хлопцы, з Браньска, везлі мяне з маладой дзяўчынай як адзіных пасажырак (зараблялі на чымсьці іншым?). У гэты раз здзівіла Лідзію тое, што нас выбраны ёю перавозчык «перапрадаў» калегу. А шафёр закіпеў, убачыўшы Лідзін багаж. Бо Лідка везла процьму падарункаў сябрам і выставу сваіх мастацкіх прац. «Асцярожна!» — выкрыкнула, убачыўшы, як неахайна і абыякава ўвальвае за месцы для пасажыраў яе высокі чамадан з працамі, апраўленымі ў шкло. Селі мы спераду, за шафёрам. Быў ён адзін, хаця ў рэкламе прапанавалі бяспечны перавоз з двума кіроўцамі (ехалася ж больш за суткі, днём і ноччу, высаджваючы пасажыраў у Нямеччыне, Бельгіі, а часам і ў Францыі і Галандыі). Шафёр з нейкай ухмылкай глянуў на мой рукзачок ды торбачку юнака, якога падсадзіла ў Браньску мама ды рэчмяшок магутнага пана, на якога глянуўшы я падумала, што ён цюцелька ў цюцельку як Курань-кухар. Лідка таксама ўчула «свайго» — і яна ж спецыялістка па кухмаранню. Гэтая бяльшчанка, фатографка, мастачка, спявачка звязаная з «Маланкай», сяброўка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», магла б выдаць не толькі лірычную кнігу, але і выдатны альбом з рэцэптамі і фатаграфіямі найбольш простых і адмысловых страў усяе Еўропы. Гэтая эканамістка па адукацыі была і кіраўніком кухоннай брыгады ў рэстаране, рыхтуе катэрынгі на вяселлі і іншыя сямейныя ўрачыстасці. Не каштавала я больш смачных тартоў, як з яе рук... Кухмарыла была і ў сталіцы Еўропы, гатуючы гурману барону прафесару Станісласу дэ Мофартс д'Гучэні (de Moffarts d'Houchenee). І едучы ў сталіцу Еўропы, Лідка Маліноўская ўжо складвае ў галаве апрача новых паэтычных фраз новыя спалучэнні смакаў. А ў яе торбе — го-го, усяго, каб то галодным не ісці спаць, спадзеючыся на куплю еўрапейскай ежы, але і сытна ды смачна пракарміцца. Любіць яна перш за ўсё славянскія, здаровыя смакі. І ўчуе адразу, што недзе побач знаўца кулінарных з'яў. Дык зачапіла нашага суседа.

Трапіла! З Бельшчыны едзе з намі мала што кухар-аматар, але ліцэнзіяваны кулінар, які працуе ў брусельскім рэстаране. І павялася размова, ад якой мне, аматарцы таўканіцы з квасам, пацяклі слінкі і ахапіла мяне зайздрасць. Хоць усё ж неверагодна трасло на еўрапейскіх аўтастрадах, слухала я аповед, скажам, Віці, электроніка па адукацыі, пра пошукі свайго месца жыцця ў іншым свеце. Упартасцю і ўмеласцю дабіўся таго, што робіць цяпер тое, што хоча. Спачатку працаваў у польскім шынку ў Брусэлі, цяпер гатуе ў фламандскім. Вядома, добра мусіць валодаць перш за ўсё французскай мовай. І ўмець трапіць у смакі наведвальнікаў. Што любяць яны з'есці пры свяце, што забеглы на ланч з працы. Вось брусельцы любяць крэпы.

— Выпякаюць крэпы на крэпніцы — вялікай патэльні-пласкадонцы без ручак або круглай гарачай паверхні. Звычайна салёнай начынкай для крэпаў, якія падаюцца на абед ці вячэру, могуць быць сыр, вяндліна, яйкі, рататуй, грыбы, розныя мясныя прадукты. Салодкія крэпы можна есці падчас сняданка або ў якасці дэсерта. Салодкія крэпы могуць быць начынены проста нутэляй, варэннем, цукрам, кляновым сіропам, лімонным сокам, узбітай смятанкай, джэмамі, заварным крэмам або кавалачкамі мяккай садавіны ці канфіцюрам. Крэпы гатуюцца з мукі, яек, малака, алею і дробкі солі. Крэпы, як правіла, двух відаў: салодкія крэпы зроблены з пшанічнай мукі і злёгку падсалоджаныя; і салёныя галеты — з грачанай мукі і не падсалоджаныя, — распавядае сімпатычны бяльшчанін, а на яго вялікім як белая патэльня твары разліваецца ўсмешка. Лідка ўся павярнулася да задняга сядзення, дзе спачывае кухар:

— А якія салодкія стравы любяць у Брусэлі? Я чула пра крокенбуш! Рабоў з ім шмат!

— Гэта французскі торцік. Яго прынята пячы на святочныя сямейныя падзеі, на вяселлі або хрэсьбіны. Гаспадыні любяць падаваць крокенбуш і на Каляды, бо яго форма ўзгадвае святочную ёлку. Робяць яго ў форме высокага конуса з маленькіх шарыкаў, з заварнога цеста. Іх змацоўваюць соўсам: разагрэтым шакаладам альбо карамеллю, а дэкаруюць торцік ніткамі карамелі, зацукраванай садавіной, кветкамі і міндалем. У прынцыпе, асноўная складанасць пры яго вырабе — скрупулёзны выраб і змацаванне шарыкаў. Можна прыгатаваць крокенбуш з двума відамі крэму — заварным і масленым. Для вырабу нам спатрэбяцца наступныя інгрэдыенты. Для заварнога цеста: 450 мл вады, 200 г сметанковага масла, 200 г мукі, 5-6 яек. Для заварнога крэму: 350 мл малака, 200 мл смятаны 30% тлустасці, 75 г сметанковага масла, 65 г цукру, 30 г крухмалу, адзін пакуначак ванільнага цукру. Для масленага крэму: 200 г сметанковага масла, 1 кубак згушчанага малака. Для дэкарацыі: 200 г белага шакаладу, салодкая пудра, арэшкі, цукаты — па жаданні. Даводзім ваду да кіпення, дадаем масла і трымаем на невялікім агні, пакуль масла не растворыцца. Даводзім сумесь да кіпення, усыпаем муку і дакладна змешваем лыжкай, каб маса была без камякоў. Паменшваем агонь да мінімуму і працягваем размешваць, пакуль маса не згусне, і ў рондлі не з'явіцца шар з цеста. Яно не павінна прыліпаць да сценак рондля. Здымаем з агню рондаль з цестам. Убіваем у яго адно яйка, змешваем да таго часу, пакуль маса зноў не стане аднастайнай. Так па адным убіваем у цеста ўсе яйкі, цеста павінна атрымацца аднастайным і бліскучым. Змазваем лісты маслам і пры дапамозе лыжкі альбо кандытарскага мяшка выкладваем на яго цеста. Павінны выйсці кружочкі папярочнікам каля 2 см (палову грэцкага арэха). Адлегласць між імі павінна складаць 3 см, таму што шарыкі пры выпечцы вельмі падымаюцца і растуць. Выпякаем іх каля 25 хвілін пры тэмпературы 200°С да залацістага колеру, студзім. Цяпер рыхтуем маслены крэм. Сметанковае масла ўзбіваем да эластычнай сумесі, вузкім струменьчыкам маленькімі порцыямі ўліваем згушчонку і змешваем да густога аднастайнага крэму. Для вырабу заварнога крэму ставім на невялікі агонь малако, усыпаем частку цукру. Растваraем крухмал у 3-4 лыжках малака і ўмешваем у кіпучае малако. Хутка змешваем сумесь, каб не было камякоў. Здымаем рондаль з пліты. Масла расціраем дабяла з рэшткамі цукру і ванільным цукрам, дадаем у малако з крухмалам. Узбіваем смятанку, дадаем порцыямі ў астылы заварны крэм, змешваем. Начыняем палову шарыкаў заварным крэмам, палову — масленым пры дапамозе карнэціка альбо лыжкі — для гэтага ў іх неабходна зрабіць надрэз. Белы шакалад распускаем у вадзяной лазні. Каб лягчэй скласці высокі крокенбуш, добра скарыстаца конусам з паперы, абкладзенай фальгой, усталяваным вастрыём уніз. Макаем шарыкі ў гарачы шакалад і шчыльна ўкладваем у конус гарызантальнымі пластамі. Шарыкі павінны прылягаць адзін да аднаго, але не дэфармавацца. На ноч ставім конус у халадзільнік. Днём асцярожна здымаем спачатку паперу, пазней фольгу. Паліваем крокенбуш разагрэтым белым шакаладам, пасыпаем цукровай пудрай і па жаданні ўпрыгожваем... — тут кухар спыняецца, бо пачыналі званіць незнаёмаму працаўніку ўласніца рэстарана, дапытваючыся, калі ён паявіцца на працы.

— Пан Віця, Лідка, гэта ж гатовы рэцэпт! — захапляюся. — Ой, добра было б вам працаваць разам. Заснаваць рэстаран у Бельску. Або і ў Еўропе. Я б прапанавала вам шынок са славянскімі стравамі, плюс славянскай культурай, — раскідваюся не сваімі грашыма і задумай святой памяці Юркі Нахілы, і далей мне мроіцца: — А ўжо напэўна магчымы быў бы ў вашым выкананні кулінарны еўраальбом...



Адным натхненнем не наясіся...





З торбай (мастацкай) у Еўропу



Куды ні глянь – усюды тутэйшыя

Ну, зерне пасеяна: Лідка і Віця мяняюцца адрасамі і тэлефонамі. А праз тры дні Лідка аж гарыць ад злосці: на выступленні ў Шале-Нарман, па вуліцы Магатмы Гандзі на Моленбеку ў Брусэлі, у рэстаране ў спартыўным цэнтры, які вядуць палякі, пачостка шаноўных гасцей была проста гадкая. Безгустоўная, без смаку, падрыхтаваная быццам бы дрывасекамі. І інтэр'ер варта змяніць. Відаць, грошы ў кішэні гэта не ўсё....

*(працяг будзе)*

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Словам па сэрцы

**19 сакавіка ў беластоцкай Падляшскай бібліятэцы адбылося мерапрыемства, прымеркаванае да выпуску новай кнігі „Смыком па сэрцы". Кнігі-анталогіі твораў згаслага ў 1985 годзе, у пяцідзесяцігадовым узросце, беластоцка-беларускага літаратара Юркі Геніюша. Мадэраваў сустрэчу Яраслаў Іванюк, загадчык беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org, якая прыняла гонар выдаць гэтую каштоўную ў нашым культурным абшары кнігу.**

— Натхняльнікам паўстання гэтай кнігі, — сказаў вядучы, — была жонка Юркі Геніюша, Валянціна, якая цягам шматлікіх гадоў збірала ўсю публікаваную творчасць ейнага мужа. Ідэя гэтая, мабыць, узнікла раней, а мы даведаліся пра яе пры нагодзе выпуску кніг успамінаў Юркавай мамы Ларысы Геніюш — вядомай беларускай паэтэсы. І тады нам стала вядома пра сабраныя спадарыняй Валянцінай фонды. І мы рашылі, што яны вартыя выдання, бо мінула амаль трыццаць гадоў са смерці Юркі Геніюша і з таго часу ягоныя творы не абнаўляліся ў грамадскай памяці. Пры ягоным жыцці таксама нямнога было выдадзена. Даўно выйшлі кнігі „З маёй званіцы" ды „Маці і сын" ды невялікі зборнічак перакладаў ягоных твораў на польскую мову аўтарства Яна Леанчука. Быў яшчэ супольны зборнік некалькіх ягоных і Сакрата Яновіча сцэнічных твораў. Спадзяемся, што новая кніга зацікавіць прыхільнікаў беларускага слова на Беласточчыне і ў Беларусі.

— Мой тата, — сказаў Міхал Геніюш, Юркаў сын, — быў перад усім лекарам, педыятрам, а пісаў пры нагодзе. Паколькі цікавілі яго розныя справы, ён ва ўсе тыя справы паглыбляўся, вывучаў іх. Быў прагным жыцця і чэрпаў з таго жыцця поўнымі прыгаршчамі. Займаўся караняпластыкай, філатэлістыкай, рыбалкай, паглынаў тамы кніжак; асабліва гэта было відаць дома, дзе ўсюды ляжалі ягоныя кніжкі. І пісаў: усё тое, што бачыў — ці то ў лесе, ці на рацэ, ці на працы — запісваў; меў адмысловыя сшыткі і ў іх накідваў свае назіранні. Паколькі працаваў у асяроддзі жывой беларускай мовы — у Гарадку, цікавілі яго таксама моўныя асаблівасці і ён пільна запісваў розныя лексічныя цікавінкі, крылатыя выказванні. Пісаў у вольных хвілінах, часта ў аўтобусе, на якім даязджаў на працу. Прыехаўшы з працы ў Гарадку, ён яшчэ ў Беластоку наведваў сваіх малых пацыентаў у шпіталі, а вярнуўшыся дахаты ён заварваў моцную каву і пісаў, часта да белай раніцы. Усяк з гэтай творчасцю бывала — некаторыя тэмы даваліся яму лёгка, а з некаторымі даводзілася змагацца даўжэй; бывала, што і год, бо лічыў патрэбнымі там нейкія дапрацоўкі. Ён вельмі рупліва падбіраў словы, старанна складаў сказы; і неаднакратна даволі доўга шукаў адпаведных слоў і фраз дзеля таго, каб твор чытаўся пасля ў жывым рытме, каб і рыфма ў ім была, каб прыдаць твору адпаведную мелодыку. І нават ягоная мама, слаўная паэтэса, часта захаплялася ягонымі фразамі. Часта, пішучы ноччу, хацеў выведаць успрыманне сваіх твораў публікай і тады будзіў нас і чытаў толькі што напісанае. Былі мы яму такой судзейскай аўдыторыяй, у якой ён цікавіўся, як мы ўспрымаем ягоныя творы. Бывала, што мы заўважалі, што нешта нам не пасуе і ён часта прымаў нашы заўвагі і ўносіў змены ў напісанае. Жыў ён багатым духовым жыццём, яго зацікаўленні былі шматгранныя і давалі яму аснову для творчасці.

Яраслаў Іванюк паведаміў, што адбыліся ўжо прэзентацыі кнігі ў Бельску, Гайнаўцы і Гарадку. Асабліва апошняя сабрала шматлікую аўдыторыю. Людзі часта ставілі пытанні, ці творчасць Юркі Геніюша яшчэ актуальная, бо многія яго сюжэты ўжо аджылі. Першую частку кнігі складаюць менавіта яго кароткія фельетоны пісаныя ў „Ніву" пра Гарадок і наваколле і шмат чаго, пра што ён пісаў, ужо няма. Для прыкладу, апавяданне „Была сабе дарога" пра ўхабістую галоўную вуліцу Гарадка, якая пазней атрымала роўны як стол насціл. Раней была гэта вуліца 22 Ліпеня, а зараз, не толькі насціл, але і назва вуліцы памянялася — яе патронамі сталі заснавальнікі Гарадка Хадкевічы...

Усе творы, сабраныя Валянцінай Геніюш, разгледзела і падабрала для друку Міра Лукша. Ці творчасць Юркі Геніюша сёння актуальная? — пацікавіўся ў яе вядучы.

— Творчасць Юркі Геніюша — сказала Міра Лукша — перад усім цікавая. Круг зацікаўленняў аўтара быў шырокі. І важнае, што ён пісаў па-беларуску, важнае дзеля захавання мовы, якая зараз у Беларусі ў небяспецы. Бацькі Юркі за сваю беларускую дзейнасць многа пакутавалі. Сам Юрка, калі ягоных бацькоў забралі з Прагі ў сібірскую ссылку, быў перакінуты ў Польшчу, дзе нейкі час знаходзіўся ў прытулку, а пасля прыгарнулі яго сямейнікі бацькоў ад Крынак. Пасля закончыў ён беластоцкую Медыцынскую акадэмію. І ягоныя тэксты былі пісаны з думкай каб яшчэ паспець, бо ж невядома, калі адыдзем. Я пазнаёмілася з ім у рамках літгрупы „Белавежа", стрыжань якой складалі людзі ва ўзросце маіх бацькоў; мне тады было пятнаццаць. З тае ўсяе творчае спадчыны, якую захавала Валянціна Геніюш, былі розныя гатовыя друкаваныя выданні ды рукапісы і машынапісы ў напрацоўцы. Я выбрала з таго матэрыялу творы завершаныя. Было там яшчэ таксама шмат занатовак ды эскізаў. Я падабрала анталогію ягонай творчасці, пачынаючы — хранапагічна — з ягоных кароткіх жартаўлівых занатовак у „Ніву". Трапіла сюды і проза, паэтычная, рытмізаваная, якую чытаецца як вершы. А завяршылі падборку сцэнічныя творы, пісаныя для самадзейных драмгурткоў. Дзякуючы беражлівасці спадарыні Валянцiны, удалося сабраць гэтую анталогію. Я старалася выбраць аўтарскія тэксты, без пазнейшых рэдактарскіх змяненняў, бо рэдактары часта скажаюць аўтарскую думку. Падбірала я, менавіта, тыя карэнныя тэксты, каб аўтар, які ўжо па-за ўплывам на іх, не злаваўся на мяне з Нябёсаў. Я ставілася да іх з поўным піетызмам. І з'явіўся спадар Яраслаў, які заявіў гатоўнасць выдання гэтых твораў.

— У час адной з ранейшых прэзентацый кнігі, — сказаў Яраслаў Іванюк, — прысутныя заўважылі, што вокладка кнігі надта змрочная. Вокладка сугучная з той першай кнігай, якую мы выпусцілі — з лагернымі ўспамінамі Ларысы Геніюш „Птушкі без гнёздаў", змест якой таксама вельмі змрочны. Ды ж і жыццё так Ларысы, як і Юркі Геніюша не было ўслана ружамі. Ёсць у гэтай кнізе верш прозай „Смыком па сэрцы", прысвечаны выпускнікам Бельскага беларускага ліцэя. Рэдактар кнігі, спадар Віталь Луба рашыў даць кнізе загаловак гэтага верша. Што прывяло да такога рашэння?

— Гэтая фраза адухаўляе — сказаў спадар Луба. — Аўтар звяртаецца да моладзі, гаворыць пра каштоўнасць спадчыны. І гэты загаловак найбольш падыходзіць да кнігі, якая прасякнута любоўю да роднага. І гэты заклік аўтара надалей актуальны. Частка матэрыялу, які кранаў актуальныя тады тэмы, а якія сёння аджылі, асабліва тэрміналогія, патрабавала тлумачэнняў сённяшняму чытачу. Сцэнічныя творы былі водгукам на грамадскае запатрабаванне, бо тады ў шматлікіх вёсках дзейнічалі драмгурткі, якія хацелі весяліць публіку, ставіць жартаўлівыя сюжэты, а тых сюжэтаў было мала, да таго ж былі яны ўстарэлыя. Патрэбныя былі творы, якія кранaлі б хваляванні тагачаснага жыцця. Юрка Геніюш адгукнуўся на гэтае запатрабаванне.

— Да мяне, — дадаў Яраслаў Іванюк, — як да загадчыка інтэрнэтнай бібліятэкі, звярталіся асветнікі, асабліва настаўнікі, з дакорам, што бібліятэка прапануе мала сцэнічных твораў.

— Гэтая кніга, — заявіла прафесар Тэрэза Занеўская, — насуперак некаторым меркаванням, не змрочная. Гэта кніга элегантная. Гэта кніга беларускага інтэлігента. Мова твораў Юркі Геніюша мае асветніцкі характар. Аўтара рэчаіснасць хвалюе. Я чула пра Юрку Геніюша, што ён паказваў сябе багемна, апранаў, напрыклад, чорную пелерыну. Чорны колер гэта не толькі выраз нейкага суму, гэта таксама колер элегантнасці. І, па-мойму, вокладка кнігі задумана выдатна. Гэтая кніга прыгожая, яе змест зладжаны. Па ўсім відаць адухоўленасць аўтара. Гэтая кніга важная не толькі для сям'і, калі яна захоўвае памяць пра чалавека, важная яна таксама для ўсяго беларускага асяроддзя, таму што паказвае свет вартасцей беларускай інтэлігенцыі. Я з вялікай насалодай знаёмілася з кнігай і вельмі ўдзячная ініцыятарам яе выдання. Загаловак таксама паказвае тую адметную рысу духоўнасці Юркі Геніюша, якую інакш складана назваць.

Збігнеў Насядка заўважыў, што Юрка Геніюш ангажаваўся ў свае дзеянні поўнасцю, страсна. Быў ён гарачым любіцелем музыкі. Да сказанага Збігнеў Насядка праспяваў любімую песню Юркі Геніюша — „Рэчаньку".

Яраслаў Іванюк выказаў сваё захапленне мініяцюрай „Афрыка", якою ў свой час захаплялся і Ларыса Геніюш:

— Гэта ўніверсальны твор, які можа адлюстроўваць шматлікія сітуацыі, дзе чалавек дрэнна адчувае сваю іншасць у акружаючым яго наваколлі. Па-мойму — гэта верш пра беларусаў Беласточчыны, так гэта тады бачыў Юрка Геніюш, і так нават чуюцца тут беларусы яшчэ і сёння. „Паэтычныя вершы Юркі Геніюша, — пісаў у пасляслоўі да кнігі Ян Леанчук, — паклікала да жыцця туга. А з тугі родзіцца шчырая паэзія, сапраўдная да слёз, што горнецца да зямлі — заўсёды прагнай адбітку людскіх слядоў, ненасытнай чалавечай цеплыні". У зборніку ёсць твор „Да свету", які паказвае, што Юрка Геніюш не мог не пісаць: „Белай плямай вабіць-вабіць картка на стале, ... Алавік сам лезе ў руку ціха, як зладзей, ... Воўкам шэрым вые-вые у душы туга, ... Думкі гоняць-гоняць да стала...".

Віталь Луба звярнуў увагу на твор „Спачатку было толькі слова": мы былі сведкамі зносу цэнзуры і тады адчулі, як слова важнае.

Ларыса Геніюш прысвячала некаторыя свае творы ўнукам, у тым і прысутнаму на сустрэчы Міхалу Геніюшу. Яраслаў Іванюк спытаў, ці таксама Юрка Геніюш прысвячаў нешта яму...

— Творы Ларысы Геніюш мелі толькі прысвячальныя загалоўкі, але яны адрасаваліся шырокаму колу чытачоў быццам казкі; да такіх твораў менш чаплялася цэнзура і ў іх можна было прыхаваць нейкую думку. Гэтыя казкі былі свайго роду кантрабандай забароненых дарослым поглядаў. Калісь бабуля, чытаючы адну з кніжак, цешылася на тыя фрагменты, якія праціснуліся цераз цэнзуру. Мой тата пісаў універсальнаму чытачу. А са мною ён шмат гутарыў, быў для мяне вялікім адукаваным аўтарытэтам. Ён зарадзіў мяне аптымізмам: „Здараецца пад восень — нанова зацвітае бэз..." („Успомні").

У кніжку ўключаны верш „Ліст да Віктара Шведа" і Яраслаў Іванюк папрасіў слова ў прысутнага на сустрэчы адрасата твора.

— Я ў прынцыпе, — сказаў Віктар Швед, — адмікаюся на тое, што пра мяне пішуць. Я Юрку асабіста быў за гэты юбілейны твор дзякаваў, але шкадую да сёння, што я не адказаў яму пісьмовым творам. І толькі цяпер „Памяць друга": „Прабач мой дружа, гумарыст,/Не адпісаў я на Твой ліст,/Ты адышоў так нечакана/Жыццёвай невылечнай ранай./Я пераняў Твае заветы/І вырашыў заўсёды гэтак/Праз час чарговы анямелы/Нёс беларускасць Тваю смела./Хоць называюць мяне Шведам,/Заўсёды я аб гэтым ведаў —/Непадуладным быць спакусам:/ Быў, ёсць і буду беларусам".

Сустрэча адбылася на парозе васьмідзесяцідзевяцігоддзя Віктара Шведа і яе арганізатары павіншавалі нашага масцітага творцу, уручаючы яму абаяльны букет, а публіка далучылася да віншаванняў, праспяваўшы яму пафаснае „Sto lat"!

Непадуладныя спакусам толькі вялікія людзі. А я рос няспешна, таму бярэ мяне спакуса прыткнуць і свае тры грошы да прэзентаванай кнігі. Яна, з майго пункту гледжання, з'яўляецца своеасаблівым мікракосмасам беларуса, гэтакім элементарным атамам ягонай душы. Тут, у кнізе, навонкі лёгкія электроны, а ў яе сярэдзіне вагавітае ядро. Гэтая канструкцыя з'явілася вынікам пчалавітай руплівасці яе складальнікаў. Ім таксама — „Sto lat"!

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Віталь Луба, Міра Лукша, Міхал Геніюш і Яраслаў Іванюк





Фота Уршулі Шубзды

# „Беларусь. Любоў і маразм” прэзентаваная ў Познані

**„Наш горад прыцягвае людзей амбіцыйных, смелых, гатовых да новых выклікаў”, — сказаў пра Познань адзін з удзельнікаў сустрэчы, на якой прэзентаваная была кніжка Ганны Кандрацюк-Свярубскай „Беларусь. Любоў і маразм”. Такіх асаблівасцей не магло не хапаць аўтарцы таму, што сабраныя на спатканні ў вялікай ступені студэнты Беларусь, якой не ведалі, пачалі пазнаваць вачыма Ганны Кандрацюк. З аднаго боку гэта арыгінальны (не палітычны) спосаб гледжання, які набліжае культуру, сацыяльную сітуацыю і жыццё жыхароў беларускай правінцыі. З другога, некаторыя з асцярожнасцю падыходзяць да цыкла рэпартажаў, напісаных амаль дзесяць гадоў таму, як да тых, якія не ахопліваюць карысных змен на Беларусі здзейсненых на працягу апошніх гадоў.**

13 сакавіка ў клубе „Мамалыга” ў Познані прайшла ўжо чарговая па Беластоку і Варшаве прэзентацыя кніжкі „Беларусь. Любоў і маразм”. Сустрэчу сарганізаваў сайт „EastWest” супольна з навуковым колам Усходняга інстытута Універсітэта імя Адама Міцкевіча. Заснавальнік партала Пятро Алексы, адзначыў, што сайт паўстаў дзеля таго, каб набліжаць польскаму грамадству нашых суседзяў з Усходняй Еўропы: „Мы не з’яўляемся яшчэ адным парталам, які аналізуе палітычную сітуацыю ва Усходняй Еўропе. Наша мэта заключаецца ў тым, каб польскі чытач лепш пазнаў суседзяў з Усходу. Ідзе пра максімальнае набліжэнне гэтай рэальнасці. Таму кніжка Ганны Кандрацюк-Свярубскай для мяне здаецца быць ідэальнай, каб гэта зрабіць. Згэтуль думка, каб спадарыню Ганю запрасіць у Познань”.

На сустрэчу прыйшлі ў асноўным маладыя людзі — студэнты, асобы звязаныя з акадэмічным асяроддзем. Таму сустрэча прайшла ў „свабоднай” атмасферы, якая нагадвала семінар. Было многа пытанняў да Ганны Кандрацюк як да асобы, якая зведала Беларусь „уздоўж і ўпоперак”. Тым больш, што амаль кожны з удзельнікаў спаткання даследуе Беларусь па меры сваіх магчымасцей. Так як Аляксандра Галюс, студэнтка пятага курса журналістыкі: „Цікавіць мяне тэма Беларусі, хаця, на жаль, я яшчэ ніколі там не была. Прыйшла на сустрэчу з аўтаркай кніжкі тым ахвотней, што пішу магістарскую дысертацыю на тэму „Вобраз Беларусі ў польскіх СМІ”. Вядома як выглядае той вобраз, прыгнечаны палітыкай. Таму шукаю іншых інфармацый, іншых крыніц. Думаю, што гэтая кніжка будзе для мяне прыемнай і перш за ўсё наватарскай”.

„А Беларусь, хаця суседка, з’яўляецца настолькі закрытай краінай, загадкавай нават, што маладых людзей проста інтрыгуе і ўвесь час здзіўляе, — кажа студэнт усходніх навук Алег: — Беларусь я заўсёды звязваў з праваслаўем. У кніжцы сп. Ганны Кандрацюк каталікі, нават ксяндзы, паказаныя як вялікія беларускія патрыёты. Я ўжо раней пацікавіўся тэмай беларускага каталіцызму, таму магістарскую дысертацыю пішу пра Антона Луцкевіча. Гэтая асоба не вельмі вядомая з гісторыі, мяне зацікавіла ягонае жыццё. Ён каталік які лічыў сябе беларусам і калі дакладней прыгледзішся ягонай біяграфіі, паражае тое, яму не шанцавала ў жыцці”.

У кніжцы „Беларусь. Любоў і маразм” змешчаны 21 тэкст. Яны набліжаюць польскаму чытачу штодзённае жыццё беларусаў, а таксама грамадскую сітуацыю ў гэтай краіне. Анна Жаброўская, выкладчыца беларускай мовы ва Універсітэце імя Адама Міцкевіча ў Познані, хвалюецца, што маладыя людзі пасля прачытання кніжкі могуць глядзець на Беларусь, як на краіну заняпалую ў цывілізацыйным плане: „Шкада, што кніга не была выдадзена раней. Рэпартажы з 1999-2005 гадоў, а сёння маем ужо дзесяць наперад і нейкія змены нават на Беларусі адбыліся. Сёння, напрыклад, можна купіць долары не толькі на чорным рынку. Я, напрыклад, бачу такую небяспеку, што малады чалавек, які ніколі не быў на Беларусі, прачытае кнігу і пачне сабе ўяўляць, што гэта невядома якая краіна. Думаю, што ўсё ж такі сітуацыя на Беларусі крыху памянялася на карысць”.

Аднак на пытанне, што ў кніжцы застаецца актуальным, Жаброўская, не задумваючыся, адказала: „Людзі. Людзі тыя самыя — шчырыя, адкрытыя, заўсёды гатовыя цябе прыняць у хату. Застаецца таксама тая карціна, якую апісвае аўтарка — кнігарні, памаляваныя на сіні колер. Я гэта ўсё помню яшчэ са свайго дзяцінства і па сёння можна гэта сустрэць. Але, думаю, перш за ўсё для Ганны Кандрацюк найважнейшыя людзі”.

У кніжцы Ганны Кандрацюк чытаем пра месцы і людзей, пра сітуацыі, якімі можам ганарыцца перад светам, як і тыя, якіх мы, беларусы, павінны саромецца. Гэта вельмі разнастайны вобраз Беларусі. І гэта сіла кніжкі.

**Уршуля ШУБЗДА**




# http://tradart.by

Цікаўнасць да фальклору ўласнага народа можа ўзнікнуць спантанна, але яна наўрад ці будзе пастаяннай, калі не акажацца побач тых людзей, якія зрабілі фалькларыстыку стылем і, пэўна, сэнсам свайго жыцця. Менавіта такія людзі даюць нам магчымасць знаёміцца з глыбінямі народнай культуры, разгледзець душу свайго народа, асэнсаваць сваю прыналежнасць да яго.

Беларускі фальклор, дзякуй Богу, пакуль мае да сябе зацікаўленне ў маладых людзей. Сведчаннем гэтага з’яўляецца „Школа традыцыйнага мастацтва”, пра сайт якой пойдзе сёння гаворка.

Калі вы нябярэце на сваім камп’ютары адрас у інтэрнэце **http://tradart.by**, то перад вашымі вачыма адкрыецца зусім незвычайнае выяўленне — на фоне зялёных калоссяў выйсці на рубрыкі сайта з фотаздымкамі да некаторых з іх. Уверсе цэлага выяўлення — назва сайта па-беларуску і па-англійску.

„Школа традыцыйнага мастацтва” — гэта, у першую чаргу, прывіццё чалавеку каштоўнасцей, якія тысячы год існавалі на нашай зямлі, сцвярджаюць стваральнікі арганізацыі на старонцы „Пра школу”. Сярод вартых прывіцця каштоўнасцей яны вызначаюць захаванне духоўнага і фізічнага здароўя чалавека, традыцыйную сям’ю, ашчаднае стаўленне да зямлі, навакольнага асяроддзя, роднай мовы і культурнай спадчыны.

На той жа старонцы месціцца інфармацыя пра час з’яўлення школы — 17 ліпеня 2012 года. Вучыцца ў ёй можна і дарослым, і дзецям ад шасці год.

Больш дэтальна пазнаёміцца з праграмай школы можна зазірнуўшы на рубрыкі, выйсці да якіх аздоблены фотаздымкамі. Гэта — „Спеўнае мастацтва”, „Традыцыйны танец”, „Рамёствы”, „Лекцыйны курс”. Там месцяцца кароткія расповеды аб навучальных курсах, коштах навучання і выкладчыках. Дарэчы, пра выкладчыкаў распавядаецца і на аднайменнай старонцы, не аздобленай фотаздымкам. Педагагічны калектыў школы невялікі — усяго толькі пяцёра чалавек. Гэта кіраўнічка курса традыцыйнага спеўнага мастацтва, дырэктар „Школы традыцыйнага мастацтва” Вікторыя Міхно, збіральнік і даследчык беларускай народнай танцавальнай культуры Мікалай Козенка, кіраўнічка курса рамёстваў Вольга Кашкурэвіч і двое лектараў: Тодар Кашкурэвіч і Таццяна Гаранская. Мае школа і выпускнікоў. Праўда, на старонцы „Нашы выпускнікі” сказана толькі пра трох дзяўчын.

Нягледзячы на тое, што сайт, як і школа, узніклі нядаўна, у цяперашні час яго ўладальнікі не надта клапоцяцца аб насычэнні свайго віртуальнага прадстаўніцтва актуальнай інфармацыяй. Так, на старонцы „Конкурс танцаў” мы можам пабачыць абвестку, што 14 снежня ў Мінску адбудзецца конкурс выканаўцаў беларускіх народных танцаў „Мяцеліца”. Нават калі ўлічыць, што гаворка ідзе пра мінулагодні снежань, думаецца, што больш чым за тры месяцы можна было б даць паведамленне аб выніках конкурсу.

Больш інфармацыйна насычанай з’яўляецца рубрыка „Нашы праекты”. Там расказваецца пра некалькі імпрэз і фестываляў, якія так ці інакш тычыліся „Школы традыцыйнага мастацтва”. Праўда, усё тое адбывалася летась. Пра сёлетнія мерапрыемствы гаворка чамусьці не ідзе.

Ёсць на сайце і асобная рубрыка „Навіны”, якая з невядомых прычын месціцца ўнізе цэлага выяўлення. Але і там не без недахопаў — усяго толькі тры паведамленні без указання дакладнай даты.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



### Паэт у выгнанні

# 35 гадоў з дня смерці Рыгора Крушыны

Некаторыя паэты чэрпаюць сваё натхненне толькі на роднай зямлі. Іншыя, выехаўшы ў эміграцыю, адчуваюць такую настальгію і абвостранасць пачуццяў, што выяўляюць сапраўдную моц свайго таленту менавіта там. З ліку такіх і беларускі творца Рыгор Крушына. Апынуўшыся ў выгнанні, ён вырваўся з догмы савецкай літаратуры і пражыў плённае жыццё паэта. Сапраўдныя імя і прозвішча Рыгора Крушыны — Рыгор Казак. Як празаік ён выступаў таксама пад псеўданімам Кастусь Рамановіч. Нарадзіўся паэт 3 снежня 1907 г. у Вільні. Паходзіў з сям’і паштовага служачага, дзяцінства праходзіла ў Вільні і на Случчыне ў вёсцы Еўлічы. Скончыў Белпедтэхнікум у Менску, дзе пачаў пісаць і друкаваць вершы, стаў членам «Маладняка», скончыў Маскоўскі інстытут кінематаграфіі. Да вайны выдаў зборнікі вершаў: «Разгон» (у сааўтарстве), «Паэзія чырвонаармейца», паспеў таксама падрыхтаваць трэці — «Шкумат пачуцця». Для ранняга перыяду творчасці Крушыны характэрна, што ён пісаў вершы на дазволеныя ідэалагічнай цэнзурай тэмы, з адпаведным бальшавіцкім імпэтам і радыкальнасцю. У час вайны паэт жыў у Менску, друкаваўся ў дазволеных немцамі «Беларускай газэце», «Беларускім работніку», «Раніцы». Адпаведна ў канцы вайны мусіў ратаваць жыццё і выехаць у Нямеччыну. Пазней перабраўся за акіян у ЗША. Апынуўшыся ў вольным свеце, Рыгор Крушына вырываецца з догмаў савецкай літаратуры на шырокі прастор свабоднага мастацтва. За 30 гадоў актыўнай творчай працы на эміграцыі ён выдаў ажно сем паэтычных зборнікаў («Лебедзь чорная», «Выбраныя творы», «Вячорная лірыка», «Хвіліна роздуму», «Вясна ўвосень», «Дарогі», «Сны і мары»), напісаў шэсць цікавых, высокамастацкіх і змястоўных паэм, займаўся форматворчасцю, упершыню ўвёў у беларускую літаратуру такія віды верша як паліндром, туюг, газэлі, канцона, японскія танкі, пісаў санеты, трыялеты, рандо, актавы, тэрцыны, працягваючы пачатае Максімам Багдановічам, Уладзімірам Дубоўкам, Язэпам Пушчам. Друкаваўся ў многіх эміgranцкіх выданнях.

Спрабаваў Крушына сябе як празаік і крытык. Адно з яго апавяданняў — «Паэзія геолагаў» прысвечана лёсам рэпрэсаваных беларускіх літаратараў. У 1950-я гг. Рыгор Крушына пачаў працаваць на радыёстанцыі «Свабода» ў Мюнхене, займаўся грамадскай і рэдактарскай дзейнасцю, быў адным з заснавальнікаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (1951), быў адзіным прадстаўніком ад беларускай пісьменніцкай эміграцыі ў Міжнародным Пэн-клубе.

У многіх паэтычных зборніках Р. Крушыны паўстае вобраз выгнанца — ужо вольнага паэта, але з параненым сэрцам. І ўсюды, дзе б ён ні быў, у якія б краіны ні прыводзіў яго вандроўніцкі лёс, у душы паэта дамінавала балючае. Эміграцыя, з аднаго боку, зняла покрыў забароненасці на слова, з другога — напоўніла сэрца такім смуткам і тугою па родных, пакінутых, што нельга было не выказаць гэта ў шматлікіх вершах.

Крушына абвясціў прынцып вольнага ад палітыкі і ўлад мастацтва. Вызначаючы сваё паэтычнае «я», ён разумеў мастацтва слова як споведзь, у якой раскрываецца душа мастака, са шчырай любоўю пісаў пра Бацькаўшчыну. Ён спадзяваўся, што яго ўспомняць на далёкай Радзіме.

Памёр у 1979 г. у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША), дзе і пахаваны.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# „Цаглінкі” ў Брэсце

Фальклорны беларускі калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны па запрашэнні Брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта быў госцем харавога калектыву „Галасы Палесся” Цэнтра культуры і вольнага часу ў мікраёне „Паўднёвы” горада Брэста. Мэтай двухдзённай сустрэчы, якая працягвалася 8-9 сакавіка 2014 года, было паглыбленне супрацоўніцтва паміж абодвума калектывамі і супольнае адсвяткаванне Міжнароднага жаночага дня.

У 8 гадзін раніцы на аўтобусе „Скания” ўдзельнікі калектыву адправіліся ў напрамку Тарэспаля. Пагранічныя і мытныя службы прапусцілі артыстаў праз мяжу вельмі хутка, павіншаваўшы жанчын са святам і пажадаўшы ім усяго найлепшага, моцнага здароўя і плённых поспехаў.

У Цэнтры культуры і вольнага часу ў мікраёне „Паўднёвы” нас сардэчна сустрэлі прадстаўнікі брэсцкіх адміністрацыйных улад. Пасля запрасілі ў рэстаран на абед. Пасля абеду пачалася падрыхтоўка да вячэрняга канцэрта.

Зала Цэнтра культуры і вольнага часу запоўнілася да апошняга месца, было многа моладзі. Вялікая, шыкарная сцэна была ўпрыгожаная з нагоды 8 Сакавіка. Мерапрыемства адкрылі прадстаўнікі адміністрацыйна-асветных улад, якія вельмі цёпла прывіталі і першымі выклікалі на сцэну „Цаглінкі”. Наш калектыў і „Галасы Палесся” выступалі напераменку па адной гадзіне і сорак хвілін кожны. Выступленне праходзіла пад бурныя апладысменты публікі.

Пасля канцэрта, у час вячэры, адбылася супольная сустрэча абодвух калектываў, на якой таксама ліліся мілагучныя песні.

На другі дзень, 9 сакавіка, мы наведалі Брэсцкую крэпасць, запалілі зніч ы ў мемарыяльным комплексе, былі сведкамі як мянялася ганаровая варта салдат. У ліку тых, хто нясе варту ў крэпасці, былі таксама маладыя дзяўчаты ў ваеннай форме. Затым экскурсія па горадзе — да помніка Тысячагоддзя Брэста, у Музей гісторыі горада Брэста і Музей „Выратаваныя мастацкія каштоўнасці”, у Свята-Васкрасенскі сабор, на набярэжную ракі Мухавец, у Брэсцкі абласны цэнтр алімпійскага рэзерву па гульнявых відах спорту „Вікторыя”, праезд па Савецкай і Ленінскай вуліцах. Душа радавалася ад пабачанага. Пасля экскурсіі абодва калектывы сустрэліся на развітальным абедзе ў рэстаране. Цяжка было развітвацца з пабрацімамі па фальклорнай песні.

У план нашай паездкі ў Брэст была мною ўключана таксама незвычайная сустрэча. Калі я афармляў у Нараўчанскай гміне неабходныя для выезду дакументы, працаўніца гэтай установы Аліцыя Лукша сказала мне наступнае:

— Больш як 50 гадоў таму я была вучаніцай пачатковай школы ў Нараўцы. Тады вучні паасобных класаў нашай школы перапісваліся са школьнікамі з Брэста. І я з таго часу, хаця я ўжо ў сталым веку і маю сваіх дзяцей, надалей трымаю кантакт з брэсцкай школьнай сяброўкай Галінай Пятроўнай Зубко.

Калі я гэта пачуў, падумаў, што трэба давесці да сустрэчы карэспандэнцыйных сябровак. І наша Аліцыя Лукша паехала з „Цаглінкамі” ў Брэст, дзе чакала яе прыгожая, энергічная настаўніца Сярэдняй школы № 27. Яна ў гэтым годзе выходзіць на пенсію. Сустрэча атрымалася незвычайнай, узрушальнай да слёз і заадно радаснай. „Цаглінкі” і „Галасы Палесся” праспявалі для Аліцыі з Польшчы і Галіны з Беларусі, якіх спалучае паўвекавая неразрыўная дружба, песню „Ах, судьба моя, судьба”. І ў гэты момант нават у мужчын пакаціліся слёзы з вачэй, не гаворачы пра жанчын. Пацалункам, абдымкам не было канца. „Мы яшчэ сустрэнемся”, — сказалі сабе сяброўкі.

**Віктар БУРА**

## НАШЫ карэспандэнты

## Чаромхаўскі аповед (3)

Чаромхаўская станцыя карысталася абмежаванай магчымасцю прымання транзітных цягнікоў. Для прыёму былі вызначаны пуці № 4, 6, 8, 10, 12, 14, 16, 20, 22, 24 і 26. Пуць 18 прызначаўся для фармавання зборных саставаў, а 28 — для цягнікоў з айчынным экспартам, якіх накіроўвалі на пагранпераход Семяноўка — Свіслач. Паколькі праз Чаромху перамяшчаліся савецкія вайсковыя цягнікі, у тым ліку эшалоны з людзьмі, дык станцыя вымушана была падбаць аб грамадскую прыбіральню для салдат. Такая была збудавана паміж 4 і 6 пуцямі. Гэта была часовая агароджа са шпалаў двухметровай вышыні. Без дашка. Усярэдзіне знаходзіліся два рады каўт перабітых дошкамі. Адначасова магло ў ёй змесціцца больш за дваццаць чалавек. Апрача прыбіральні паміж пуцямі быў праведзены водаправод. З крана ў вайскоўцы чэрпалі ваду для кухні і ўмывання.

Рухам цягнікоў займаліся Раённы цэнтр кіравання ў Седльцах, а на станцыі — дзяжурны-распарадчык. Пуці 4 і 6 трымаліся ў запасе для вайсковых цягнікоў. У летнім сезоне, калі салдаты з тэхнікай падаваліся на цалінныя землі для ўборкі ўраджаю, станцыя была загружана войскам. У транзітным эшалоне знаходзіліся тры-чатыры вагоны-цяплушкі для салдат і такая ж цяплушка для начальніка эшалона і афіцэраў, вагон з кухняй, прадуктовы склад ды адкрытыя вагоны з тэхнікай. У эшалонах, якія падаваліся з Польшчы, афіцэры падарожнічалі ў пасажырскіх вагонах. Найбольш вайсковых цягнікоў адпраўлялася з Легніцы, Вроцлава, Борнага-Сулінова, Варшавы-Рэмбертава, Легіянова.

Зранку станцыя бурліла салдацкім гоманам. Доўжыўся хвосцік салдат у чарзе да крана. Пасля ранішняга туалета праходзіла пераклічка. Абвяшчаў аб тым гук сігнальнай трубкі. Агляд займаў некалькі мінут. Затым салдаты разыходзіліся па вагонах. Шафёры даглядалі аўтамабілі на платформах ды займаліся праверкай рэчаў. Іншыя сядалі на лаўках (такія былі ўстаноўлены паміж пуцямі 4 і 6) і чыталі кніжкі. Людскі гоман перамешваўся са звонкімі гукамі гармоніка, гітары і салдацкіх песень. Начальнік эшалона пасля пераклічкі падаваўся ў камендатуру ЗКУ для афармлення службовых спраў. Афіцэры ў сваю чаргу ішлі ў мясцовыя крамы па пакупкі. Паколькі яны не карысталіся польскай валютай, дык намагаліся абмяняць нямецкія маркі на злоты. Для чаромхаўскіх чыгуначнікаў гэта быў жывы бізнес. Вайскоўцы не ведалі банкавага курсу, таму трацілі на абмене. Скарысталі на здзелцы чыгуначнікі і прадаўцы. Гэтыя апошнія проста абдурвалі савецкіх афіцэраў.

Па графіку Чаромха павінна была перадаваць у Высока-Літоўск дванаццаць цягнікоў у суткі. Эшалоны з людзьмі адпраўляліся пазачаргова. Тэарэтычна агенты афармлялі дакументы на цягнікі па чарзе іх прыбывання на станцыю. Практычна чарговасць вызначаў ЗКУ-шнік, або начальнік эшалона звычайна дамаўляўся з агентамі. А як гэта адбывалася, гэта іншая гісторыя.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. імя Курасавы, японскага кінарэжысёра (1910-1998) = 9 _ 8 _ 7 _ 5 _ 4 _;
2. травяністая індыйская расліна, з валакна якой вырабляюць канаты і грубую тканіну = 2 _ 3 _ 6 _ 14 _;
3. доўгая паласа выробленай шкуры, якая можа ўжывацца, напрыклад, у якасці пояса = 15 _ 16 _ 10 _ 11 _ 12 _ 13 _;
4. сухая кармавая трава = 17 _ 19 _ 18 _ 1 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

|  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  | 1 | 2 |
|  |  | 3 | 4 | 5 | 6 |
|  |  |  |  |  | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |

### Адказ на адгаданку з 9 нумара

Ёўня, легат, мох, нацыя, рыжык, туя, ціс, ютрань, язь.

Рашэнне: **Заўтра належыць тым, якія сёння яго рыхтуюць.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 30.03 — 05.04

**(22.03. — 20.04.)** Рыхтуйся ўвесь тыдзень перажываць з-за нявызначанасці ў пытанні любоўных адносін, нематываваных канфліктаў з каханым, непаразуменняў і раздражнення. У панядзелак не адштурхвай свой поспех: можаш мець выдатныя здабыткі. У аўторак спрыяльныя прадпрымальніцтва і гандаль. У сераду ўсе спрэчныя пытанні лепш вырашыць да абеду.

**(21.04. — 21.05.)** Адкладзі на час прыняцце любых рашэнняў, якія тычацца твайго асабістага жыцця. Цяпер не лепшы час для прапановы рукі і сэрца каханай асобе, а таксама для заключэння саюзаў. У панядзелак маеш шанц здабыць прыхільнасць важных асоб. Аўторак — выдатны дзень для пачатку новых праектаў, звязаных з будаўніцтвам або рамонтам кватэры. У сераду будзь асцярожны з аўтамабілем.

**(22.05. — 22.06.)** Нічым не абгрунтаванае пачуццё турботы? Прыслухайся да свайго ўнутранага голасу, магчыма, твая падсвядомасць спрабуе паведаміць пра тое, што ўвесь час вылізгваецца ад тваіх вачэй. Паспрыяй гэтаму працэсу, правёўшы крыху часу ў медытацыі і рэлаксацыі. Не бойся змяніць сваё жыццё, калі ты нешчаслівы ў эмацыйнай сферы.

**(23.06. — 23.07.)** Не дзяліся ні з кім сваімі ідэямі і праектамі, не рассакрэчвай сваіх планаў, інакш тваім даверам могуць скарыстацца нядобразычліўцы. Пакінь прыняцце сур'ёзных рашэнняў да будучага тыдня, усё яшчэ добра ўзваж і абмяркуй: магчыма, у хуткім часе кардынальна зменіш сваё меркаванне адносна праблем. У панядзелак чакаюць прыемныя нечаканасці на працы, у справах і бізнесе.

**(24.07. — 23.08.)** Твой настрой будзе вясёлы, што можа раздражніць людзей без пачуцця гумару. Вялікая верагоднасць сур'ёзных памылак пад уплывам пачуццяў і эмоцый, як уласных, так і іншых асоб. Праяві розум і не ідзі на павадку хуткага запалу і жаданняў. У першыя дні тыдня беражы свае сілы і не перанатужвайся. Другая палова тыдня можа прынесці фінансавую нестабільнасць.

**(24.08. — 23.09.)** Чакаюць знаёмствы і паездкі. Верагодна дасягненне вялікага поспеху ў розных дзелавых аперацыях. Прапусці міма вушэй любыя каментары і заўвагі іншых людзей адносна твайго выгляду або паводзін. Прыцягненне любові ці грошай цяпер сапраўды залежыць ад таго, што скажаш ты.

**(24.09. — 23.10.)** Набудзеш каштоўную інфармацыю, калі будзеш шмат слухаць і назіраць. Праяві дыпламатыю, каб дамагчыся ажыццяўлення старых жаданняў і планаў. Шанц вышэй узлезці па службовай лесвіцы, аднак, прыйдзецца пастарацца. У аўторак не давай грошай у доўг.

**(24.10. — 22.11.)** Трэба будзе займацца шматлікімі справамі і вырашаць мноства праблем, але ўсе гэтыя справы пойдуць табе на карысць. Спатрэбіцца прыняць дапамогу з боку. Не бойся звярнуцца да ўплывовых сяброў і сваякоў, якія дапамогуць тваім задумам ажыццявіцца. Калі ў панядзелак наступіш у гной або на сабачыя фекаліі, гэтая прыкмета прадвесціць табе выратаванне ад матэрыяльных бед.

**(23.11. — 22.12.)** Рыхтуйся да перамен, звязаных з тваім фінансавым і сацыяльным становішчам. Чакае цябе ўзнагарода за твае добрыя справы і ўчынкі. Не дазваляй свайму атачэнню абмяжоўваць тваю свабоду і не спакушайся чужымі прывабнымі прапановамі.

**(23.12. — 20.01.)** На гэтым тыдні дасць аб сабе ведаць стары канфлікт. Паспрабуюць вывесці цябе з раўнавагі. Трымайся ў баку ад непрыемных табе людзей. Нешта, што здаецца табе перашкодай і цяжкасцю, на самой справе паслана табе Небам у якасці перасцярогі. Калі зломіш ключ, адчыняючы дзверы ў сваёй хаце, гэта можа азначаць спадчынныя звады і дзяльбу, або твой даўжнік адмовіцца вяртаць табе грошы.

**(21.01. — 19.02.)** Захочацца табе чымсьці дапамагчы іншым людзям, аднак не раскашэльвайся лішне. Пазбягай вялікага фізічнага напружання: не прабуй зрабіць больш, чым можаш, і не гавары пра тое што добра не ведаеш. Не застанешся без падтрымкі звыш, калі возьмешся за сур'ёзнае навучанне ці паспрабуеш зладзіць асабістае жыццё.

**(20.02. — 21.03.)** Раптоўныя змены ў тваім жыцці могуць скончыцца стратамі. Можаш выдаткаваць марна або страціць шмат грошай. Адмоўся ад сумніўных здзелак, не купляй вялікіх рэчаў. Не выдавай нікому сакрэтаў, а працуючы над новымі праектамі не давай навакольным унікаць у іх сутнасць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



# Глабальная
## і дзікая вёска









**Прыпушчанская глыбінка прывітала мяне вібрацыяй. Здавалася, паветра дрыжыць ад раднаснага спеву жаўрукоў. Па-над падмоклымі лугамі ўзляталі кнігаўкі. Іх пранізлівы крык усё ж такі кампанаваўся з салодкім канцэртам жаўрукоў. Птушыны канцэрт час ад часу зрываўся і расплываўся ў бронзавых танацыях-адценнях свежаабсеяных палёў, каб успыхнуць раптоўна і нечакана ды зноў расплысціся ў прасторы.**

Мая бедная галоўка, дзень і ноч уваткнёная ў экран камп'ютара, зараз ачышчалася ад механічнай энергіі і ўсякай немачы. Вясковы беларус — жыты з прыродай. Там яго душа і космас, туды ідзе па ратунак. Мяне здзівіла прысутнасць двух матацыклістаў, якія з'явіліся на палявой дарозе, і са свістам паімчалі ў бок галоўнай шашы. Выглядалі як пасланцы з глабальнай цывілізацыі. Апранутыя ад галавы па пяткі ў гумаваныя касцюмы аранжава-чорнага колеру, напаміналі майскіх жукоў. На добрую справу яны маглі б прыехаць з Брусселя або з Гайнаўкі. Свет матацыклістаў зраўнаваўся, кожны хто зафундуе сабе такую цацку, можа адчуць сябе глабальным грамадзянінам....

Аж пацяплела на душы, калі ў Н. убачыла дзядзьку ў забалочаных фільцах-гумоўцах.

* * *

— Што ў вас новага чуваць? — пытаю ў Н.

— Бусел прыляцеў, — чую ў адказ, — пакуль, адзін. Ці прыляціць яшчэ „да пары"? Паглядзім! Можа дзе адстрэляць яго ў той паганай Лівії? Як жа так, каб у бусла страляць! Гэта ж чалавечая птушка. Святая птушка. У нас адзін *такі разумны* скінуў буслянку і ўсё пайшло не так. Ён сам памёр яшчэ таго самага року. Нават Пакроваў не дачакаўся. А пасля, каб гэтага было мала, клуня датла згарэла...

У прыпушчанскай глыбінцы прымаюць толькі бяспечныя навіны і асуджаюць такія, што далёка-далёка ад іх панадворка. Калі пытаю пра афрыканскую чуму свіней, тут адмахваюцца рукамі і нагамі. Ды ўпэўнена пратэстуюць:

— У нас такога няма! Гэта ў Расіі і ў Афрыцы.

У доказ пакажуць мне парасятак са свінаматкай. Іх від, у традыцыйным хляве, на шматпавярховай саламянай пасцілцы, узбуджае салодкую пяшчоту. Аж не хочацца верыць, што за год гэтыя стварэнні апынуцца ў страўніках нашых чуллівых гаспадароў...

Падобнае захапленне ўзбуджае бой паміж пеўнямі дзікай зялёнаногай пароды. Счапіліся на сярэдзіне панадворка і, быццам напаказ, б'юцца як рыцары на турніры.

Баявітыя пеўні патрапілі ў прыпушчанскую глыбінку разам са статкам курэй аж з Сувальскага ландшафтнага парку. З-за гэтага іх празвалі напорыстымі „сувальчакамі". Праўда, іх задзірлівасць нікому тут не мяшае — наадварот. „Сувальчакаў" прыдбалі ўжо ўсе гаспадары і ўдовы. А дакладней кажучы, іх раскралі, ды зараз зялёнаногая парода шпацыруе ўжо на кожным жывым панадворку...

* * *

Бо большасць панадворкаў у Н. ужо абязлюдзелая, запушчаная, пазяхае адчайнай пустэчай і пагрозай як з джунгляў. У адным канцы, напрыклад, развяліся вужы, у іншым — куніцы. Увогуле, дзікая звярына напірае тут з кожнага боку, а найбольш з боку лесу. На Грамніцы сярэдзінай вёскі прайшлося дзевяць зуброў. Добра што якой хаткі, куратніка не развалілі, не закалолі рагамі п'яненькага пенсіянера, што вяртаўся з гасціны.

— А ў нас на горцы, дзе пасеянае трыцікале, — кажа мужчына ў фільцах-гумоўцах, — пятнаццаць аленяў прыйшло. Пажэрлі сабе са смакам і, як лорды, пайшлі ў лес. Пайду, думаю, рагоў пашукаю. Але раздумаўся. Цяпер тыя рогі нічога нявартыя. Няма ніякай кампенсацыі.

Самай дакучлівай і нават назойлівай дзічынай з'яўляюцца тут дзікі. У наваколлі Н. развяліся як нейкая саранча. Калі я пайшла прагуляцца па лесе і палюбавацца першымі пралескамі, пабачыла лугі зрытыя дзікамі, як пасля баранавання. З зямлі нёсся яшчэ іх востры пах, з-за чаго закружыла ў галаве. Праўда, прысутнасць дзікоў здзіўляла тут менш, чым з'яўленне новага фермера. Прыезджы зраўнаваў зямлю як шклянку, павыдзіраў з зямлі кусты і грушыдзічкі, што раслі на межах, ды абсеяў увесь загон кукурузай.

Мясцовыя пакуль круцяць галавой ад недаверу. Ці сапраўды той фермер разумны? Ён жа арганізаваў кладоўку з пашай для дзікоў і аленяў.

— А можа ёсць тут нейкі прыхаваны толк? — дапытвала я, не даваручы, што ёсць тут нейкае другое дно, або выхад.

— Толк тут такі, — адказалі ў Н., — што разумны знайшоў дурня, прадаў зямлю і сам сабе купіў кватэру ў Беластоку. Абы далей ад той звярыны, лесу...

Апошні вывад моцна мяне пакрыўдзіў.

**Фота і тэкст**
**ГАННЫ КАНДРАЦЮК**




ISSN 0546-1960